*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша СЛОВА



Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 46(431) 17 ЛІСТАПАДА 1999 г.

## Да ведама сяброў Рэспубліканскай Рады ТБМ

Чарговае пасяджанне Рэспубліканскай рады ТБМ адбудзецца ў Менску 21 лістапада 1999 года ў памяшканні Чырвонага касцёла (плошча Незалежнасці) аб 11-ай гадзіне.

На парадку дня:

1. Абмеркаванне плана работы Таварыства на 2000 год.
2. Зацвярджанне кіраўнікоў камісій ТБМ і абмеркаванне планаў работы кожнай камісіі.
3. Стварэнне аргкамітэта па правядзенні Рэспубліканскай канферэнцыі, прысвечанай 10-годдзю Закона аб мовах.
4. Абмеркаванне мерапрыемстваў, прысвечаных 10-годдзю Закона аб мовах.
5. Рознае.

Праезд іншагароднім будзе аплочаны.

Адказны сакратар ТБМ І. Марачкіна.

## Заява

Сакратарыяту Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

З абурэннем канстатуем, што апублікаваны ў друку праект Дагавору аб стварэнні Саюзнай дзяржавы дэманструе зняважлівыя адносіны аўтараў гэтага дакумента да мовы карэннай нацыі Беларусі. Як абраза ўспрымаецца намі той факт, што ў артыкуле 11 прапанаванага праекта рабочай мовай усіх органаў саюзнай дзяржавы называецца толькі руская. Дарэчы сімптаматычна і тое, што ініцыятары стварэння саюзнай дзяржавы не парупіліся нават надрукаваць праект на беларускай мове – дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь.

Цынічнае ігнараванне мовы першага друкара ўсходніх славянаў Францішка Скарыны сведчыць аб тым, што беларусам у плануемай дзяржаве адводзіцца незайздроснае месца.

Мы не хочам паўтарыць лёс шматлікіх народаў Расейскай імперыі, якія ў выніку дэнацыяналізацыі страцілі сваю мову, культуру, сваю адметнасць. Мы не жадаем паміраць.

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны катэгарычна выступае супраць стварэння дзяржавы, якое нясе пагрозу суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь і непазбежна прывядзе да заняпаду і знікнення нашай роднай старажытнай мовы.

***Сакратарыят Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"***

21 кастрычніка 1999 г. г. Менск

## Перадача "Роднае слова"

**пра выкладанне вышэйшай матэматыкі па-беларуску**

**20 лістапада ў 9.10** на Беларускім тэлебачанні ў перадачы "Роднае слова"- кандыдат фізічна-матэматычных навук, дацэнт Людміла Майсеня. Вось ужо 8 гадоў выкладае Людміла Іосіфаўна вышэйшую матэматыку на беларускай мове ў БДУ Інфарматыкі і Мікраэлектронікі. За гэтыя гады яна не толькі дала выдатныя веды сотням студэнтаў, але і прывіла ім любоў да роднай мовы. Сёлета, у такі цяжкі для нашай мовы час "клапатлівыя начальнікі" правялі на беларускамоўнай плыні апытванне 120 студэнтаў першага курса, на якой жа мове студэнты хочуць вывучаць матэматыку. На расейскай мове захацела вучыцца толькі 6 чалавек, ды і з іх праз некалькі тыдняў 3 чалавекі вярнуліся назад да беларускай мовы. Пра тое, што так моцна яднае выкладчыка і студэнтаў, глядзіце ў перадачы Уладзіміра Содаля, Валянціны Лаўровай і Уладзіміра Шчаслівага **20 лістапада ў суботу ў 9.10** на Беларускім тэлебачанні.

От 06.10.1999г. № 24В-600
На № 428 от 06.09.1999г.
Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Мінгарвыканкам
Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкам

Адміністрацыя Савецкага раёна г.Мінска паведамляе, што ў 1999/2000 навучальным годзе ў 7 школах раёна функцыяніруе 31 клас з беларускай мовай навучання колькасцю 605 вучняў.

Фарміраванне класаў ажыццяўляецца на падставе заяў бацькоў, у якіх указваецца мова навучання, і ў адпаведнасці з нарматыўнымі актамі.

Пытанне аб закрыцці 5 "Г" класа ў гімназіі № 8 ні ў гімназіі, ні ў аддзеле адукацыі не разглядалася.

Нам.кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна г.Мінска М.С. Ціцянкоў

Жукоўская 284 88 61

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Знакаміты польскі перакладчык Чэслаў Сэнюх сказаў, што сёння ў Беларусі ніхто не ведае беларускай мовы. "Гэтая бяда нараджаецца ў Менску, у палацы прэзідэнта. Хутка беларускай мовы не будзе нідзе, акрамя як у музеях", - лічыць перакладчык "Новай зямлі".

**Алена Сіневіч.**
**"Пагоня" 21.10.99 г.**

*У гэты лёсавызначальны для нашага народа час вельмі здзіўляюць паводзіны нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дакладней - яе кіраўніцтва, якое сваім дагаджальніцтвам перад уладамі фактычна спрыяе знішчэнню беларускай мовы і саміх беларусаў. Аналагічнае стаўленне да беларускай мовы і ў большасці кіраўнікоў галіновых навукова-даследчых і праектных інстытутаў, навукова-вытворчых установаў, якія падобным чынам спрыяюць знішчэнню ў нашым краі каранёў беларускасці.*

***Аляксей Саламонаў.***
***"Народная воля" 29.10.99 г.***

Яны (чыноўнікі Я.П.) разумеюць: калі напачатку выцесніць беларускую мову, то і беларускую дзяржаву будзе знішчыць проста: без нацыянальнай свядомасці хто будзе супраціўляцца паглынанню Беларусі Расіяй? Так што, разлічваюць яны, потым замацаваць беларусаў у складзе Расійскай імперыі асаблівых цяжкасцей не будзе.

**Алесь Заранок.**
**"Народная воля" 9.11.99 г.**

*Ды што тут дзівіцца, калі прызначаныя кіраўніком дзяржавы засядальцы ў так званым Нацыянальным сходзе ні слаўца не мовяць па-беларуску і сам А.Лукашэнка карыстаецца спрэс запазычанай мовай, хоць і гаворыць на ёй з густым, непераадоленым беларускім акцэнтам.*

***Уладзімір Дамашэвіч.***
***"Народная воля" 10.11.99г.***

... але кіраўнікі калоны і тут ухіліліся ад сутычкі і павялі людзей на Першамайскую вуліцу. Я падышоў да ланцуга міліцыянтаў, што перакрылі праспект Скарыны і загаварыў з імі. Усе яны размаўлялі выключна па-руску.

**Мікола Луканскі.**
**"Народная воля" 30.10.99г.**

Я.П. У допісу гутарка ідзе аб "Маршы Свабоды".

*Заўсёды, калі я іду па вуліцы і размаўляю па-беларуску, то бачу накіраваныя ў мой бок здзіўленыя погляды, быццам людзі ўпершыню ў жыцці пачулі беларускую гаворку. Становіцца неяк крыўдна і сорамна: да чаго мы дажылі.*

***Ірына Пархоменка 14 гадоў.***
***"Народная воля" 6.11.99г.***

Ненавіснікі ўсяго беларускага называюць нацыяналістам, фашыстам усякага беларуса, які размаўляе на роднай мове.

**Рыгор Васільчэня.**
**"Народная воля" 4.11.99г.**

*У школах краіны закончылася першая чвэрць навучальнага году. Многія сталічныя школьнікі не пакідаюць надзеі адстаяць свае права вучыцца па-беларуску. Чыноўнікі ўсіх узроўняў заяўляюць вучням ды іхным бацькам, што ніхто, маўляў, не забараняе, насамрэч жа робяць адваротнае.*

***Валянціна Аксак.***
***"Наша ніва" 1.11.99г.***

У самыя жудасныя часы дастаткова было недарэчы сказаць па-беларуску некалькі слоў або мець у доме якуюсь "неправільную" кніжку, каб быць абвінавачаным у "беларускім нацыяналізме", кінутым да вязніцы ды расстраляным. Цяпер за кніжку нібыта не страляюць, але дастаткова быць усяго толькі носьбітам мовы, слухаць беларускую музыку, хадзіць у беларускую царкву, як за табой прычэпіцца гнюсная такі мянушка "нацыяналіста".

**Валерка Булгакаў.**
**"Наша ніва" 8.11.99г.**



У маладой сельскай настаўніцы Пузічскай школы Салігорскага раёна Вольгі Мікалаеўны Корж усяго пяць вучняў у яе падрыхтоўчым класе. Але якія гэта працавітыя, здольныя дзеці. Займацца з імі асалода. Яны ўжо ведаюць шмат чаго з праграмы -- алфавіт, крыху чытаюць, лічаць.

На здымку: Вольга Мікалаеўна Корж са сваімі вучнямі.
Фота Уладзіміра Амяльчэні, БелТА.

# Беларусачкам

*Гэй, людзі цемры, што душу чарцям прадалі,*
*Што хітрасць розумам, а сілай злосць назвалі,*
*Хто веру й вольнасць знойдзе ў вас і закапае,*
*Каб Бога ашукаць – сябе ён ашукае.*
*А.Міцкевіч, "Дзяды".*

Вельмі прыемна, што пісьмы ў "Наша слова" дасылаюць "беларусачкі". Так, у № 30 (245) ад 28 ліпеня 1999 г. з сямі паштоавак – пяць ад іх. Хачу пажадаць усім "беларусачкам" краіны будаваць сваё жыццё з думай аб будучым сваіх дзяцей і іх месцы на гэтай зямлі.

Жадаю кожнай, хто не мае, знайсці сабе свядомага мужа – беларуса, бацьку сваім дзецям і памочніка ў выхаванні дзетак – беларусаў. Гэта нялёгка, але калі абое – аднадумцы ў адносінах да дзяцей па моўнаму пытанню, то і дзеці вырастуць сапраўднымі беларусамі.

Не сакрэт, што акупанты не без дай прычыны паставілі пытанне пры перапісу насельніцтва аб мове зносін у сям'і. Пераважная колькасць жанчын размаўляе дома на замежнай мове. Вось гэтыя мацяркі перапісваюць заявы аб пераводзе сваіх дзетак у "маскальскія" школы, галасуюць за прайдзісветаў, пішуць цэннікі, аб'явы, даносы, прысуды на замежнай мове.

Гэта яны не пяюць дзецям беларускія калыханкі і песні, не чытаюць беларускія казкі. Гэта іх дзеці служаць цяперашнім антыбеларускім уладам і носяцца за беларусамі з гумавымі дубінкамі. І калі Вы, паважаныя "беларусачкі", зрабілі свядомы выбар на карысць Маці – Беларусі, то моўнае пытанне павінна стаяць на першым месцы і пры ўтварэнні сям'і.

Трэба імкнуцца да таго, каб беларуская мова для новых грамадзян Беларусі стала матчынай мовай. Памылка ў моўным пытанні пры ўтварэнні сям'і можа адгукнуцца пытаннем "бацькоў і дзяцей" у больш сталым веку.

Аб сабе: беларус, 40 гадоў, маю жонку рускую і двух сыноў 9 і 5 гадоў. Дома жонка з маленства выхоўвае дзяцей "рускімі". А садкі і школа знаеце самі якія, - у лепшым выпадку гібрыд. Існая ўлада не надае статусу садкам і школам, менавіта, як беларускім. Адсюль ніякай адказнасці і абавязкаў перад бацькамі – беларусамі. "Да пабачэння" – і ўсё. Нават "выпускны" ранішнік і той зрабілі на замежнай мове. Я ж стараюся прывіць дзецям беларускасць. Размаўляю з імі на беларускай мове, выпісваю ім беларускія дзіцячыя газеты і часопісы. Чым абернецца гэтая "прывіўка", у далейшым пакажа час. Але ў адным я не сумняваюся, усё, што мае дзеткі прыдбаюць беларускага, паможа стаць ім сапраўднымі гаспадарамі на гэтай зямлі.

*З павагай М.Яўсей. Горадня.*

# ТБМ удзячнае ДАІ

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўдзячнае Дзяржаўнай аўтаінспекцыі Рэспублікі Беларусь за выкарыстанне беларускай мовы для сваіх працоўных дакументаў і афармленне візуальнага асяроддзя нашых аўтамагістраляў.

Так да 1 кастрычніка ўсе кіроўцы павінны былі застрахаваць свае аўтамабілі. Страхавыя карткі выкананы на беларускай мове.

На галоўных аўтамабільных дарогах краіны з'явіліся памочнікі супрацоўнікаў ДАІ -- драўляныя муляжы з выявамі інспектараў і машын ДАІ (на здымку). Гэтае новаўвядзенне значна скараціла колькасць аварый і здарэнняў на дарогах. Муляжы аформлены на беларускай мове.

Фота Віктара Талочкі, БелТА.







**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Тамсама і там жа.*** У сучаснай маўленчай практыцы запанавала прыслоўе ***тамсама*** на месцы ранейшага словаспалучэння ***там жа*** (рас. ***там же***). Напрыклад, "10. Служба быту Беларусі. 1989.№ 6 С.6. 11. Тамсама// Роднае слова. 1998. №9. С.54; або: "Спасылкі. 1. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці" Ф.1106, ап.1.С.18.Л.1; 2. Тамсама Ф.1107. ап 1.С.11. Л.192// Гарадзенскія запісы. Старонкі гісторыі і культуры. Выпуск 3. – Гродна. 1997. С.49; 2. Божым шляхам. 1978. № 1.(149). С.2.; 3. Тамсама// Свіцязь. Гістарычна-культаралагічны часопіс. № 1.1994. Гродна.С.85.

Лексема ***тамсама*** ўзнікла на ўзор ***таксама*** (цяпер выкарыстоўваецца і ***гэтаксама***). Нашыя слоўнікі падаюць прыслоўе і злучнік ***таксама*** як адпаведнік рас. ***так же*** (РБС – 93, т.3.С.497), а рас. прыслоўе ***там же*** перакладаюць як ***там жа*** (Тамсама.С.499). Як бачым, слоўнікі ідуць тут у фарватары расейскае мовы, а не беларускае.

***Упрыгожанне – а не ўпрыгажэнне.*** Слова ***ўпрыгажэнне*** – акцэнтавая калька рас. ***украшение.*** Менавіта такія калькаваныя формы замацоўваліся рэформай 1933 года. Натуральным тут ёсць ***упрыгожанне*** – ад ***упрыгожваць*** (з захаваннем націску ўтваральнага дзеяслова). Гэта пацвярджае і форма ***ўпрыгожванне***, якая захоўвае акцэнтаванне дзеяслова ***ўпрыгожваць.*** Нажаль, нашыя акадэмічныя слоўнікі, фіксуючы натуральнае слова ***ўпрыгожванне***, разам з тым, падаюць і штучную акцэнтавую форму ***ўпрыгажэнне*** – адэкват рас. ***украшение.*** Але ж і ў расейскім вытворным назоўніку захоўваецца націск утваральнага дзеяслова (на тым самым складзе): ***украшать – украшение.*** Неапраўданую форму ***ўпрыгажэнне*** бачым у РБС-53 (на с.713 чытаем: "Украшать несов. Упрыгожваць, убіраць, аздабляць... Украшение. 1. (действие) упрыгажэнне, аздабленне, неоконч. упрыгожванне, убіранне, украшение ёлки – упрыгажэнне (упрыгожванне, убіранне, аздабленне) ёлкі; 2. (прадмет) аздабленне, упрыгажэнне, убор, аздоба; ёлочные украшения – ёлачныя аздабленні (цацкі). Як відаць, нармаванымі тут ёсць формы упрыгожванне (ад упрыгожваць) і ўбіранне, аздабленне (ад убіраць, аздабляць).

Гэтае памылковае формы ўпрыгажэнне не падае БРС-62, дзе фіксуюцца толькі: "Упрыгожанне ср. украшение; см. упрыгожыць; упрыгожванне, ср. украшение; см. упрыгожваць" (с.961).

Але ж памылковую форму ***ўпрыгажэнне*** перанеслі ў і наступныя перавыданні гэтага слоўніка: РБС – 82, РБС-91, РБС-93, РБС-94,РБС-98. Тлумачальныя слоўнікі вырашылі сумясціць натуральнае з штучным і падалі абедзве формы: "Упрыгожванне, -я, н. Тое, што і ўпрыгажэнне" (ТСБМ. Т.5.Кн., 2.Мн., 1994. С.40). Гэтую недарэчнасць бачым і ў "Тлумачальным слоўніку" 1996 года. Прычым, абедзве формы адсылаюцца да таго самага ўтваральнага дзеяслова ***ўпрыгожыць*** (ТСБЛМ. С.693). Двухтомавае перавыданне БРС-62, каб наблізіцца да ўсесаюзнага стандарту, падае ужо, апроч натуральнае формы ***упрыгожанне***, і штучную ***упрыгажэнне*** з тым самым значэннем. Да таго ж, касуючы натуральную форму на карысць штучнай. На с.617 (т.2.Мн.,1989) чытаем: "Упрыгажэнне ср. (прадмет) украшение. Упрыгажэнне ср.см. упрыгажэнне".

Натуральнаю, нармаванаю ёсць форма ***упрыгожанне***, якая вынікае з акцэнтавання ўтваральнага дзеяслова ***ўпрыгожыць*** – упрыгожваць. Як і ***аздабляць – аздабленне, убраць – убранне, уплятаць – уплятанне.*** Прычым, значэнне працэсавасці і значэнне прадметнае не вымагаюць рознага акцэнтавання.

У звязку з гэтым нагадаем, што натуральная форма назоўніка ***паседжанне*** (ад дзеяслова ***паседжваць***, які фіксуецца слоўнікамі, гл. БРС-89.С.136) рэформаю 1933 года была замененая на ***пасяджэнне*** (супольную акцэнтавую з рас. ***заседание***). Але гэтае ***пасяджэнне*** – паланізм: польск.***posiedzenie*** (*przerwac posiedzenie - перапыніць паседжанне*).

Такім чынам, беларусы маюць сваё – ***паседжанне***, расейцы – ***заседание***, палякі –***posiedzenie.***

***Змацаванне, клямар, шпона – а не скрэпа.*** Рас. ***скрепа*** і ***скрепление*** – ад ***скрепить – скреплять*** (нульсуфіксаванае ўтварэнне). У беларускай мове ім адпавядаюць свае дзеясловы: "Замацаваць сов. Прям. перен. скрепить; замацаваць рэйкі гайкамі – скрепить рельсы гайками; змацаванне ср. прям. перен. Скрепление см. змацаваць" (БРС-88. С.524). Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953.С.629) падае да рас. ***скрепа*** тры адмысловыя беларускія лексемы: ***змацаванне, клямар, шпона***; але ж дзеля набліжэння да ўсесаюзнага стандарту – і ... скрэпа (ідзе на першым месцы); ***железная скрепа – жалезная скрэпа, жалезнае замацаванне.*** Але ж і тут бачым: "Скрепить сов. 1. (прочно соединить) замацаваць; (бумагу и т.п.) сашчапіць; скрепить узы перен. Замацаваць повязі; 2. (удостоверить) змацаваць" і вытворнае ад ***скрепа*** слова ***скрепка*** мае беларускі адэкват ***сашчэпка.*** Дык чаму ***"скрэпа"***, а не ***змацаванне*** ці ***клямар, шпона***? Тым больш, што гэтае ***"скрепа"*** – варыянт слова ***скрепление***, якое мае свае беларускія адэкваты: "Скрепление ср. 1. Змацаванне, сашчапленне, сашчэпліваннен, 2. Техн. Змацаванне; (скрепка) скрэпа; (скоба) клямар; (шпонка) шпона" (Тамсама.С.629).

Новы "Тлумачальны слоўнік" падае толькі ***змацаванне*** – "прыстасаванне для злучэння частак чагонебудзь (спец). Рэйкавыя змацаванні". (ТСБЛМ. Мн., 1996.С.244).

***Згуртаваць і згуртаваны ці спаяць і спаяны (калектыў)?*** Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі гэтага ***"спаяць калектыў".*** На месцы яго выкарыстоўвалася ***згуртаваць.*** "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.2.Мн.,1978.С.456) падае: "Згуртаваць – аб'яднаць; зрабіць узгодненымі аднадумнымі чые-небудзь дзеянні. Верны, светлы праклала нам шлях. Згуртавала, з'яднала нас воляй адзінай" Танк". Ад гэтага дзеяслова і дзеепрыметнік ***згуртаваны*** – *'прасякнуты аднадушшам; дружны, згуртаваны калектыў'* (Тамсама). "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы засведчыў: "Згуртаваць... сплотить, спаять". "Згуртаваны - ...сплоченный, спаянный" (М.,1962.С.332). Гта пацвердзіў і яго двухтомавік (БРС-88.С.510). Аднак, фіксуючы гэтыя беларускія адпаведнікі, слоўнікі разам з тым падаюць і гэтае усесаюзнае ***спаяны***, праўда, без ілюстрацыі з беларускіх крыніцаў. А ў перакладных яно стаіць нават на першым месцы: "Спаянный 1. Спаяны, знітаваны; 2. Перен. Спаяны, згуртаваны" (РБС-53, 651; РБС-93. Т.3. С.425). А вось "Тлумачальны слоўнік" 1996 года справядліва не падае гэтага спаяны, а толькі згуртаваны (с.298).

*(Працяг у наст. нумары).*

Ніл Гілевіч

# ЦІ НЕЛЬГА БЕЗ КАМУФЛЯЖУ, ПАНОВЕ?

## Да пытання аб "лінгвацыдзе"

***Неабходнае патлумачэнне да публікацыі***

*Неаднойчы падчас размоў з людзьмі інтэлігентамі і дэмакратычнай арыентацыі пераконваўся: як толькі даходзіць да пытання аб мове, а менавіта аб тым, каб у рэспубліцы запанавала мова карэннага народа, стала насапраўдному мовай дзяржаўнай, - тут жа ўсякае і "інтэлігенства" і "дэмакратызм" канчаецца. Тут жа ваяўнічыя змагары за свабоду і роўнасць нацый або змаўкаюць (у лепшым выпадку), або падымаюць крык нязгоды: не! Усё – пад крыло свабоды і права, усё пад дэмакратыю, пад разумны закон, - толькі не мову! Мова хай будзе тая ж, якой мы карыстаемся!*

*Адзін з такіх эпізодаў, які пацвердзіў гэту сумную ісціну, - мая спроба апублікаваць у вельмі дэмакратычнай расійскай "Литературной газете" рэпліку на адну яе публікацыю, скіраваную супроць украінізацыі школ на Украіне. Рэпліку газета не надрукавала, хоць перададзена яна была афіцыйна – праз карэспандэнта "ЛГ" ў Беларусі.*

*І застаўся я ў каторы раз з усё той жа горыччу ў душы і з усё тым жа пытаннем: дык што ж гэта ў вас за нацыянальная палітыка, панове? Такую палітыку, якая душыла нацыянальныя мовы народаў СССР, нацыянальныя школы, нацыянальнае пісьменства і не абяцала ў гэтым плане ніякай прасветліны, ніякай будучыні, - такую палітыку мы цярпелі амаль 70 гадоў, пачынаючы з канца 20-х! Дык што – "и вы туда же?" Ачмурэнне, ці што, найшло на вас? Ці ўсё ваша змаганне за свабоду і дэмакратыю ёсць усяго і толькі змаганне за ўладу? А ўзяўшы ўладу – пакажаце мове такую ж "кузькину мать", як і бальшавікі калісьці?*

*Прапаную тую сваю рэпліку чытачам "Нашага слова". Хоць прайшло амаль два гады, актуальнасці сваёй, на вялікі жаль, яна не страціла. Нааадварот, праблема яшчэ больш абвастрылася, - у нас, вядома, у нас, у Беларусі. На Украіне, веру, "буде все гаразд", бо нацыянальная палітыка ажыццяўляецца разумна, лёс мовы гарантаваны дзяржавай.*

*Н.Г.*

Артыкул С.Славіча з Ялты " Што такое "лінгвацыд" ("ЛГ".29.10.1997) я прачытаў з вялікай увагай: бо гаворка пра лёс мовы – гэта, па сутнасці, гаворка пра лёс самога народа, стваральніка і носьбіта мовы, пра лёс краіны і дзяржавы. Для палітыкаў, ды і для ўсіх небяздумных грамадзян, пытанне першаступеннай важнасці.

З прыкметнай доляй іроніі і нават высакамернасці (маўляў, во яшчэ дэмакраты знайшліся!) аўтар артыкула асуджае нацыянальна-культурную палітыку, якую праводзіць цяпер на Украіне кіраўніцтва дзяржавы. Асабліва абураецца ён паўсюдным увядзеннем украінскай мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай, і перш за ўсё – пераводам навучання на ўкраінскую мову ў школах. Галоўны контраргумент С.Славіча – трэба ў першую чаргу паважаць правы чалавека, а потым ужо – правы нацыі, народа. Ён нават спасылаецца на артыкул 26 Дэкларацыі правоў чалавека, пры гэтым, наўмысна ці між волі, падмяняе "від навучання" (так у Дэкларацыі) мовай навучання, але ж гэта не адно і тое, зусім не адно і тое! Ён пагрозліва-папераджальна гаворыць пра 20 мільёнаў рускамоўных грамадзян на Украіне (маўляў, з гэтым не жартуйце), хоць ніхто не ведае, колькі з іх, гэтых мільёнаў – непахісныя праціўнікі вывучэння украінскай мовы. Нагадаем: калі ў 1918 годзе Чэхаславакія набыла незалежнасць, амаль усе жыхары Чэхіі, асабліва ў гарадах, гаварылі на нямецкай, а праз пяць гадоў – усе на чэскай, хай сабе многія і з памылкамі. Гэтага патрабавала нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне краіны.

Па перакананні пана Славіча, толькі таму, што нехта не хоча вывучаць афіцыйную мову дзяржавы, у якой жыве, яго трэба вызваліць ад гэтага цяжару. Здорава! Ці не праўда? А як жа ён будзе жыць і працаваць у гэтай дзяржаве? Перакладчыка пры сабе трымаць будзе, ці што? Ён жа будзе ў сваім вытворча-грамадскім жыцці практычна бездапаможны. Здавалася б, усё ясна, праблемы няма, ёсць толькі пэўныя цяжкасці практычнага парадку – як хутчэй і лепш авалодаць мовай. Мовай, падкрэслім, роднаснай, блізкай, не якой-небудзь кітайскай ці японскай. Тады адкуль жа і дзеля чаго выпірае гэтая нібыта высакародная абарона правоў чалавека перад роднай нацыянальнай дзяржавай, якая яго так крыўдзіць?



А ўсё адтуль жа, і ўсё дзеля таго ж... Як і дзвесце гадоў назад. Пара б ужо і запыніць сябе, панове! Усяму свету ўжо даўно ясна, што ў былым СССР, праігнараваўшы гістарычныя лёсы народаў, а моўнаю палітыкай заехалі, як гэта кажуць, "не туды", што і паслужыла адной з галоўных прычын "выбуху" знутры. А тут – усё яшчэ робяць выгляд, што ў гэтых адносінах у СССР усё было нармальна, а ненармальнасці вось пачаліся ў былых яго рэспубліках, сёння незалежных дзяржавах.

Можа, хто-небудзь думае, што С.Славіч сапраўды не разумее, чаму кіраўніцтва Украіны праводзіць цяпер менавіта такую, трохі жорсткую, моўную палітыку? Чаму яно вымушана, - падкрэсліваю: вымушана! – прыняць на агульнадзяржаўным узроўні меры, якія (нарэшце, пасля некалькіх стагоддзяў сапраўднага "лінгвацыду"!) забяспечылі б вялікай і цудоўнай украінскай мове належнае на роднай зямлі становішча? Не, паважаныя чытачы, ён усё гэта разумее, нават вельмі добра разумее. І таму спрачацца з ім няма ніякага сэнсу. Я дзесяткі гадоў, па наіўнасці, спрачаўся аб гэтым са сваімі суайчыннікамі, даказваў, пераконваў, гарачыўся, рваў-надрываў сэрца, пакуль не ўбачыў: Госпадзе Божа, ды каму ты ўсё гэта тлумачыш, каму даказваеш? Сказаў жа мудры старычына: "Ты виноват уж тем, что хочется мне кушать..." Пан Славіч выдатна разумее і ведае, што, калі сённяшняя моўная палітыка на Украіне пераможа і ўкраінская мова стане, у поўным сэнсе слова, адзінай дзяржаўнай і будзе панаваць ва ўсіх сферах грамадскага жыцця краіны, - то гэта будзе азначаць толькі адно, а менавіта тое, што Украіна ўжо ніколі не ўвойдзе ў склад ці то імперыі, ці то федэрацыі, ці то нейкага саюза славянскіх народаў (ідэю ці задуму апошняга цяпер прапаведуюць асабліва заўзята). Не ўвойдзе – таму што разам з украінскай мовай у душах мільёнаў сцвердзіцца і ўкраінская нацыянальная самасвядомасць, і пачуццё нацыянальнай годнасці. Не ўвойдзе – таму што тыя, хто аднойчы ўдыхнуў паветра свабоды, незалежнасці, дзяржаўнай самастойнасці, назад у няволю, у рабства добраахвотна не ідуць. Ну, а прымусіць да гэтага вялікую Украіну немагчыма, расправіцца з ёю, як гэта пачалі рабіць з маёй Беларуссю, - не ўдасца. У гэтым і ўся справа.

Пра сённяшняе становішча беларускай мовы ў Беларусі пан Славіч, канешне ж, ведае. А менавіта: толькі таму, што кіраўніцтва краіны звярнула ўбок са шляху нацыянальнага адраджэння і, у адрозненне ад Украіны, зацвердзіла рускую мову дзяржаўнай, у Беларусі за апошнія гады беларуская мова зноў адкінута ў становішча, у якім яна знаходзілася дваццаць гадоў назад, - нават у яшчэ больш цяжкае, больш сумнае, больш бядотнае. Тады, у гэныя часы, душылі яе, зводзілі на нішто, але хоць адкрыта не здзекаваліся, як гэта робіцца цяпер. Ёсць зусім рэальная пагроза, што, калі працэс не спыніць, у блізкай будучыні зноў не застанецца ні адной беларускай школы ні ў адным горадзе, гарадку і пасёлку Беларусі (а потым, несумненна, і ні ў адной вёсцы). У выніку, беларускі народ, як асобны славянскі этнас, знікне. Гэта і малым дзецям зразумела. Вось – рэальнасць, а не дабрамысныя развважанні. Ці гэтага жадае Украіне і украінскаму народу пан Славіч? Калі не гэтага – дык чаго? Нішто ж іншае з яго пазіцыі вынікнуць не можа. Толькі паглынанне адной мовы (украінскай) другою (рускаю). Толькі асіміляцыя! Што звышпаспяхова цягам цэлых стагоддзяў і рабілася. Усе размовы аб абароне правоў асобы – гэта толькі выгадны "дэмакратычны" камуфляж. І нічога больш.

На шчасце, патрыёты Украіны гэта разумеюць. І вядома ж, не стануць прымяраць да сваёй Бацькаўшчыны лёс Ірландыі або Шатландыі, як гэта далікатна падказвае ім паважаны абаронца дэмакратыі. Веру, што яны і далей будуць рабіць усё (у згодзе з Канстытуцыяй, вядома), каб украінская мова запанавала на Украіне паўсюдна. Пры гэтым будуць добра ведаць і рускую мову. Абавязкова! За гэта пану Славічу і ўсім панам-дабрадзеям турбавацца не трэба.

# Праваслаўе і школа на мяжы тысячагоддзяў

На пачатку лістапада ў Менску прайшлі шостыя Свята-Еўфрасіннеўскія педагагічныя чытанні "Праваслаўе і школа на мяжы тысячагоддзяў: вопыт, праблемы, перспектывы", арганізаваныя Цэнтрам праваслаўнай асветы прападобнай Еўфрасінні Полацкай, Міністэрствамі адукацыі, абароны, унутраных справаў, БПСМ і іншымі.

Удзельнікі чытанняў карысталіся пераважна рускай мовай. Прагучала толькі тры выступленні па-беларуску і адно - на "трасянцы". Я была здзіўлена тым, што некаторыя выступоўцы гаварылі пра, нібыта, узнікшую пагрозу ліквідацыі праваслаўя, пра тое, што праваслаўных святароў не пускаюць у школы. Аднак шматлікія іншыя выступленні сведчылі пра адваротнае. Сябра Расейскай Акадэміі, кандыдат навук А.Д. Чарвякоў прапанаваў стварыць адзіную дактрыну адукацыі Расеі і Беларусі. "А чаму б і не,- падтрымала маскоўскага госця супрацоўніца Міністэрства адукацыі, - мы ж ідзём да адзінай дзяржавы." Заспакоіў намеснік міністра адукацыі Г.Д. Дылян, патлумачыўшы, што разам з расейскімі калегамі ўжо вядзецца праца па стварэнні адзінай адукацыйнай прасторы.

У іншых выступленнях выказваліся думкі пра тое, што ў Беларусі, як у дзяржаве гістарычна праваслаўнай, праваслаўе павінна стаць дзяржаўнай рэлігіяй. Дакладчыкі прапаноўвалі ліквідаваць неадпаведнасць праграмаў па прыродазнаўстве, біялогіі, астраноміі з рэлігіяй; увесці ў школах новы прадмет - "Праваслаўная культура з элементамі славянскай этыкі". Прагучала, на мой погляд, недарэчная прапанова перанесці пачатак зімовых вакацый з 25 снежня на 6 студзеня. Маўляў, няма чаго Міністэрству адукацыі прыстасоўвацца да каталікоў. Як вядома, школа ў нашай дзяржаве аддзеленая ад царквы. Але Міністэрствам адукацыі РБ распрацаваны метадычна-інструктыўны ліст, у якім рэгламентаваная рэлігійная праца ў навучальных установах. З гэтым дакументам мне падчас чытанняў пазнаёміцца не ўдалося, але супрацоўнікі міністэрства абяцалі даслаць яго дырэктару школы, дзе я працую. Магчыма у сувязі з гэтым дацэнт Менскага педагагічнага універсітэта Л.М. Цыганкова зазначыла, што Еўфрасіння Полацкая дапаможа ў ліквідацыі беларускамоўнай адукацыі, таму што ўсе школы ў нашай краіне мусяць быць праваслаўнымі.

Некаторыя выступоўцы абураліся, што Віцебск ператвараецца ў цэнтр розных зборышчаў, такіх як, напрыклад, Славянскі базар. Горад становіцца месцам правядзення выставак кшталту "Жанчына - сексуальна-радзільная машына". І тут, як адзначалася, ва ўсім вінаваты Захад, які адмоўна ўплывае на нашую моладзь.

На педагагічных чытаннях я даведалася, што, дзякуючы праваслаўю, добрае выхаванне атрымліваюць нашы вайскоўцы, будучыя міліцыянеры, а таксама дзеці ў праваслаўных гімназіях Масквы. Шкада, што нікому з прысутных, хто жадаў выступіць, слова не далі.

***Алена Дэц, настаўніца СШ № 180 г. Менска.***

# *Для мяне гэта – шок!*

Мы атрымалі ліст з Гарадні. Наш сталы чытач, студэнт сельскагаспадарчага інстытута Раман Абухоўскі піша пра ганебны факт: "У маіх сяброў сын вучыцца ў гімназіі. Пасля ён паступіў у, здавалася б, прыстыжную навучальную ўстанову – ліцэй пры БДУ. Скажу шчыра, я дрэнна ведаю, што гэта за ўстанова. Але хлопца яна страшна расчаравала. Ён моцна ўражаны тым, што на шэрагу тэхнічных спецыяльнасцяў у ліцэі пры БДУ беларускую мову выкладаюць па-руску! І гэта ў Менску, у Беларусі для беларусаў! Для мяне гэта – ш о к. А можа мы "заходнікі" нічога не ведаем, і гэтая з'ява распаўсюджана на Беларусі? Я чуў, што ў школах, ПТВ Менска і Усходняй Беларусі вучні на ўроках беларускай мовы і літаратуры адказваюць па-руску, а настаўнікі і не патрабуюць большага".

Мы падзяляем занепакоенасць нашага чытача і лічым неабходным у сувязі з гэтакім становішчам роднай мовы звярнуцца да ўсіх яе прыхільнікаў, першасных суполак з просьбай збіраць звесткі пра дэскрымінацыю беларускай мовы ў нашай краіне і дасылаць іх на адрас рэдакцыі газеты. Атрыманая інфармацыя будзе неадкладна надрукаваная ў "Нашым слове".

***Мікола Лавіцкі..***

*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

### Памяць пра перамогу

Неўзабаве пасля разгрому захопнікаў нехта з тагачасных мастакоў стварыў карціну "Бітва пад Воршай". Цяпер гэтая карціна знаходзіцца ў адным з музеяў Варшавы. На ёй можна ўбачыць воінаў Вялікага княства перад пачаткам сечы. На сваіх доўгіх дзідах коннікі трымаюць бел-чырвона-белыя сцяжкі. Гэта першы вядомы малюнак нашага нацыянальнага сцяга.





**Бітва пад Воршай. Фрагменты з карціны невядомага мастака XУІ ст.Унізе ясна відны бел-чырвона-белыя сцяжкі на дзідах беларускіх баяроў.**

У гонар выдатнай перамогі на рэчцы Крапіўне беларускі народ склаў песню, у якой услаўляў гетмана Астрожскага і ягоных смелых ратнікаў. У гэтай песні ёсць такія словы:

Ой, у нядзельку параненька
Ўзышло сонца хмарненька,
Узышло сонца над борам,
Па-над Сялецкім таборам.
А ў таборы трубы йграюць,
Да ваяцкае парады зазываюць,
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршы здабываці:
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
А ні з поля, а ні з лесу
Толькі з рэчкі невялічкі.
А ў нядзельку параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы:
Гучаць разам з самапалаў,
З сяміпалых ад запалаў.
Б'юць паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці,
А як з Воршы уцякалі,
Рэчку невялічку праклінал:
"Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як наша слава тутака прапала,
Бадай высыхала да скачнэння свету,
Што нашай славанькі ўжо нету".
Слава Воршы ўжо не горша.
Слаўся, пан Астрожскі!

Прамінула ўжо амаль пяцьсот гадоў, а памяць пра бітву пад Воршай жыве ў нашым народзе.

У 1992 годзе ў дзень слаўнай перамогі войска Астрожскага тысячы беларусаў сабраліся ў Менску на плошчы Незалежнасці.

Яны далі ўрачыстую вайсковую прысягу мужна і самаахвярна бараніць Беларускую дзяржаву ад любога ворага.

**Пытанні і заданні:**

1. Якія новыя ворагі з'явіліся ў нашых продкаў пасля разгрому крыжакоў?
2. Раскажы, як Вялікае княства Літоўскае змагалася з татарамі.
3. Што ты ведаеш пра Канстанціна Астрожскага? За што вялікі князь прызначыў яго гетманам?
4. Колькі бітваў выйграў гетман Астрожскі? Дзе і калі ён здабыў самую славутую перамогу?
5. Якая вайсковая хітрасць дапамагла перамагчы ворагаў на беразе рэчкі Крапіўны?
6. Што адбылося ў дзень бітвы пад Воршай у 1992 годзе?

## Мікола Гусоўскі

У беларуса не трэба пытацца, што гэта за звер – зубр. Ты, вядома, таксама нераз бачыў яго і па тэлевізары, і на фотаздымках ды малюнках у сваіх кніжках. А калі табе пашанцавала пабыць на экскурсіі ў Белавежскай пушчы, дык паглядзеў і на жывых лясных волатаў.

У розныя стагоддзі беларускія пісьменнікі часта пісалі пра гэтага магутнага і прыгожага звера. А самы славуты твор, прысвечаны гаспадару нашых пушчаў, стварыў у далёкім XУІ стагоддзі паэт Мікола Гусоўскі.

### Сын паляўнічага

Звестак пра Міколу Гусоўскага захавалася надзвычай мала. Нарадзіўся ён прыкладна ў той самы час, што і Францішак Скарына, але дзе – невядома. Паселішчы з назваю Гусава былі і ў Польшчы, і ў Беларусі. Аднак з твораў Гусоўскага відаць, што ён добра ведаў жыццё і гісторыю беларусаў, горача любіў нашу старажытную дзяржаву – Вялікае княства Літоўскае.

Вучоныя мяркуюць, што будучы паэт мог з'явіцца на свет у сям'і княжага лесніка-паляўсоўшчыка або паляўнічага. Хлопчыку з ранняга дзяцінства давялося дапамагаць бацьку ў ягоных нялёгкіх клопатах. У юнацтве ён і сам ужо быў добрым паляўнічым. Мікола цудоўна ведаў навакольныя лясы і пушчы, звярыныя сцежкі і звычаі. Узімку ён хутка хадзіў на кароткіх і шырокіх паляўнічых лыжах, улетку пераплываў побач з канём раку. Ён выдатна страляў з лука і арбалета.

Юнаку тыднямі даводзілася блукаць па лясных нетрах. Ён часта начаваў каля вогнішча, павячэраўшы печанай на вуголлі дзічынай. Асабліва цанілі тагачасныя беларускія паляўнічыя мяса глушца, бо лічылася, што яно дае сілу і целу, і розуму. Існавала нават такая прымаўка: "Жывіся глушцом – будзеш мудрацом".

### Каралеўскае пасольства

Не менш за паляванне Міколу вабіла навука. Ён вучыўся ў Вільні і ў Кракаве, бліскуча авалодаў там лацінскаю мовай, пачаў пісаць вершы.

Разумнага і таленавітага юнака заўважыў адзін з набліжаных да караля людзей Эразм Вітэліус. Ён быў біскупам, гэта значыць, вышэйшым каталіцкім святаром, а яшчэ – любіў мастацтва і дапамагаў паэтам.

У 1518 годзе кароль Польшчы і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Казіміравіч накіраваў у Італію сваё пасольства. Яго ўзначальваў біскуп Вітэліус, які ўзяў з сабою на пасаду сакратара Міколу Гусоўскага. Паэт выправіўся ў далёкую дарогу з радасцю. Італія славілася сваімі мастакамі і архітэктарамі, вучонымі і пісьменнікамі. Гусоўскі спадзяваўся, што ў Рыме дасягне паэтычных вышыняў.

### Заказ рымскага папы

Пасольства прыбыло ў Італію з вельмі адказным клопатам. У той час на землі Вялікага княства Літоўскага амаль кожны год нападалі татары. Паслы павінны былі




**Мікола Гусоўскі**

дамовіцца з рымскім папам пра стварэнне саюзу еўрапейскіх краін супроць татараў і туркаў. Рымскі папа лічыўся галоўным каталіцкім святаром свету і меў велізарную ўладу.

Тады рымскім папам быў Лявон Х. Ён добра ведаў і любіў паэзію ды іншыя мастацтвы. Яшчэ ён быў заўзятым паляўнічым і збіраў чучалы розных рэдкіх звяроў.

Аднойчы папа разам з паслом Эразмам Вітэліусам назіраў за боем быкоў у цырку. Пасол загаварыў пра волата беларускіх лясоў, і Лявон Х вельмі зацікавіўся. Ён пажадаў мець у сваіх пакоях чучала зубра, а таксама паэтычны твор пра паляванне на гэтых звяроў.

Эразм Вітэліус перадаў просьбу папы свайму сакратару. Гусоўскі, якога ўжо ведалі як таленавітага паэта і ў Рыме, з ахвотаю згадзіўся. Пісаць на заказ самога папы было вялікім гонарам, апрача таго, Мікола спадзяваўся, што яго вершы дапамогуць пасольству заваяваць у Лявона Х большую прыхільнасць і той абвесціць крыжовы паход на туркаў і іхніх хаўруснікаў – татараў.

*(Працяг у наступным нумары).*

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных устаноў**
**Укладальнік Ірына Марачкіна**

### ВОСЕНЬ

З поўначы цёмнае, з сіверу дальняга
Нудная восень прыйшла;
З поля ўбранага, з лугу зялёнага
Жыцце-красу прыняла;
Холадам-сцюжаю разам павеяла,
Смерць за сабой прынясла.
З дрэва прыбранага, лісцем адзетага
Уборы сарвала, страсла.
Птушак міленькіх з краю радзімага
У вырай загнала ад нас;
Песні іх мілыя, дзіўна спяваныя,
Ветрам заглушыла ўраз.
Ветрам павеяным з дальняга сіверу
Хмар прынясла за сабой;
Неба высокае, сіня-крыштальнае
Усё спавіла туманом.

*Цішка Гартны.*

### ВОСЕНЬ

Дождж ідзе і дрэвы хвошча,
Дождж ліе і дах палошча,
Лье па ганку, б'е па браме,
Расцякаецца па раме.
Адзінокі лісцік рвецца:
Ой, куды ад слоты дзецца?
Вецер б'ецца спуджана.
Што ні крок, дык лужына,
Вецер грукае па браме,
І зіма не за гарамі.

*Станіслаў Шушкевіч.*

### ПРАДЧУВАННЕ

Аблятае ліст з тапаляў,
Лужы студзіць халадок,
Вецер лётае па полі
І пагладжвае стажок.

У вокны стукае сініца,
Кажа:
- Корм рыхтуйце мне.
Прадчуваю я, што восень
Хутка ўладу здасць зіме.

*Тадзіяна Кляшторная*

### РАЗВІТАННЕ

Шэрай раніцай
Сцюдзёнай
Ліст зляцеў
Апошні
З клёна:
Надакучыла сядзець,
Сіл ужо няма
Трымцець.
Думаў:
Трошкі палятаю
Сілы крыльцам
Назбіраю,
Каля вокнаў
Пакручуся
І назад
Ізноў вярнуся…
Покуль думаў гэтак –
Вецер
Закружыў яго
Па свеце
І панёс,
Панёс,
Дальш ад клёнаў і бяроз.
За ракою
Апусціў.
Больш дахаты
Не пусціў.

*Уладзімір Карызна.*

### СКУЛЬ УЗЯЛІСЯ Ў НАС БЯРОЗЫ І АСІНЫ

Гарачае, ой, якое гарачае было ў нас лета! Людзі абліваліся потам, жывёла хавалася ў кусты ад гарачыні і ад мухаў; нават птушкі змоўклі і драмалі ў цяньку зялёных галінак.

На вузкім загоне жала трое людзей: бацька, маці і дачка. Бацька і маці, хоць пот ліўся цурком з іх твараў, працавалі шчыра, каб толькі зжаць хутчэй сваю ніўку. Але ж дачка не тое: аглядалася, пацягвалася, пастойвала. Відаць, гультайка была добрая. Наракала то на гарачыню, то на мухі; то жалілася, чаму не наляціць цёмная хмарка, чаму дожджык халодны не асвежыць зямлі. Не памаглі ні просьбы мацеры, ні пагрозы бацькі.

Нарэшце маці, угледзеўшы, што дачка зноў стаіць рукі злажыўшы, не выцерпела, ды са злосці крыкнула:

-- Чаго ж ты зноў стаіш? А каб ты стала асінаю!

У дрэнную гадзіну быў кінуты праклён. У моманцік ногі дзяўчыны перамяніліся ў пень, каторы ўрос у зямлю; рукі выраслі ў паднятыя ў неба галіны, пакрытыя круглаватымі зялёнымі лісточкамі, што так безупынку дрыжэлі, як дрыжэла ў мінуту праклёну цела спалоханай дзяўчыны.

Загаласіла маці, заплакала. Абедзвюма рукамі ўхапілася за галаву, ірве валасы.

Расплялiся косы, слёзы ракой ліюцца.

Спалоханы бацька анямеў на хвіліну, ды і ён як загаласіць:

-- А што ж ты нарабіла!.. А долечка мая няшчасная … А каб ты сама бярозаю стала!..

Стаіць маці, рукі апусціўшы. Белая яе вопратка белай карой стала; валасы галінкамі тоненькімі, цёмнымі, бліскучымі да зямлі звешваюцца; як густыя слёзы, дробнае лісце па галінках сплывае. Стала маці бярозаю.

Многа вякоў з таго часу прайшло, а бярозы і асіны развяліся ўсюды па нашай зямлі.

*Зоська Верас.*



Цуд тварыўся – я праспаў:
Снег дасвеццем перапаў
Рана-рана.
І ляжыць ён на дварах,
На парканах, на дравах –
Чысты – чысты.
Для гасцей абрус у нас
Сцеляць гэтакі якраз
Белы – белы.
Счараваў вяскоўцаў снег:
Хоць бы слова, крых ці смех, -
Ціха – ціха.
Моўчкі й я стаю ў цішы,
І так лёгка на душы,
І так светла…

*Ніл Гілевіч.*

### ВЕЦЕР ВЫЎ

Вецер асенні шалеў, выючы ўсімі тонамі роспачы і болю. Выў вецер, бяздольны пан і ўладар апусцелых абшараў. Выў і праклінаў адзіноцтва сваё.

Кідаў праклянцці, як громы магутныя; у бяссільнай злосці сваёй ламаў галіны бязвінных дрэў. Гнаў цэлыя хмары мёртвага лісця. І плакаў, і стагнаў. А яму ўторылі совы вялікавокія з глыбіні чорных дуплаў…

Дрыжалі бязлітасныя жалобныя дрэвы. Ціхім шэлестам скардзіліся жоўтыя хмары лісцяў. Чырвонымі слязамі сыпалі каліны і рабіны…

З шэрага халоднага неба ліліся хвалі дробнага дажджу.

А вецер выў…

*Зоська Верас.*

# Давайце спяваць па-беларуску

## Лістапад

**Словы і музыка Алеся Камоцкага**

*Em Am*
Ізноў лістапад, усё халадней, халадней,
*H7 Em*
Дарога назад уночы і ўдзень бязь людзей,
*Em Am*
Канешне б пайшоў, дык жа ж мне туды ніяк,
*H7 Am*
Я хворы душой, але не магу і я.

*C G D G*
Ліст хоча падаць ў лесе і ў садзе.
*C G D G*
Першы мароз пэўна заўтра кране.
*C G Am Em*
У лістападзе я, у лістападзе,
*Am Em H7 Em*
А памяць мая засталася ў вясне.

Іду па зямлі, як быццам яе няма.
Тут людзі былі, казалі: вось-вось зіма.
Паверыў было, за імі амаль пайшоў,
Але замяло мой шлях і людзей лісьцём.
А вецер быў-выў, я слухаць яго ня мог,
Бо ён аблажыў пачаткі усіх дарог.
І шляхам маім гуляў за мяне ня раз --
Ад вёсен да зім ён меў досыць вольны час.

Ліст хоча падаць ў лесе і ў садзе.
Першы мароз пэўна заўтра кране.
У лістападзе я, у лістападзе,
Зноўку душа ашукала мяне.

Вось так і жыві, дарогі назад няма.
Уперад глядзіш, ды толькі ж і там зіма.
Яе адмяніць ня можа ніхто, і вось
Ня маеш ані, ды ўжо разумееш штось.

Ліст хоча падаць ў лесе і ў садзе.
Першы мароз пэўна заўтра кране.
У лістападзе я, у лістападзе,
Хочацца выпіць і людзям і мне.

## Восень

*Am Dm*
Чарговая восень накручвае сумны матыў
*E7 Am*
Пад цень непазбежнага, здаўна вядомы усім,
*Am Dm*
Паўсюдна прыходзіць, са звыклых ня збочыць шляхоў
*E7 Am*
Вятры разганяе сваёю празрыстай рукой.

*Am Dm*
Я грэшны, я перад табой
*E7 Am*
З адвечным маўклівым пытаньнем,
*Am Dm*
З прыхіленаю галавой.
*E7 Am*
Такое вось выйшла спатканьне.

Застылым чаканьнем каханьне паволі ляціць,
Пакуль не замолім свае маладыя грахі.
Асенняе сонца дазволіць нам гэта, і мы
З яго блаславення сустрэнем пачатак зімы.

Я грэшны, я перад табой
З адвечным маўклівым пытаньнем,
З прыхіленаю галавой.
Такое вось выйшла спатканьне.

Нясі мяне, восень, павертам сьцюдзёным, нясі,
Дзе клёны фарбуюць халоднай крывёю лясы.
Вядзі мяне восень, вядзі да апошніх лістоў
І побач са мной перад першай завеяй пастой

Я грэшны, я перад табой
З адвечным маўклівым пытаньнем,
З прыхіленаю галавой.
Такое вось выйшла спатканьне.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 15. 11. 99 г.
Наклад 3300 асобнікаў. Замова № 3057.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
*Кошт у розніцу:* 20 000 руб.